Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 48 (99). Вільня, Субота 18 Чэрвеня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

**Беларусы, жыхары Вільні! Помніце, што толькі адзін сьпісак № 1 ёсьць сьпіскам Беларускім і затым усе ідзіце і аддайце свае галасы за свой сьпісак № 1**

## Дзе беларускія кандыдаты?

Нарэшце ананімны „Белар. Выб. Каміт." адважыўся выпусьціць і надрукаваць у „Наш. Праўдзе" адозву да Беларусаў места Вільні і кліча галасаваць за нейкі „Zjednoczony Kom. Wyb. P. P. S. (lew.), Niez. Soc. i Zw. Zaw. Газэта часам трапляе ў рукі работніка Беларуса і затым ён у сувязі з клічам, які зьмешчаны на першае старонцы сьпіску кандыдатаў, думае, што гэты сьпісак зьмешчаны ў „Нашай Праўдзе" на другой або на трэцяй старонцы. Але дарэмна работнік заглядае і на 2-гую, і на 3-юю, і на 4-ую старонку „Нашай Праўды"—нідзе не знаходзе сьпіску беларускіх кандыдатаў у радныя места Вільні. Гэты факт наводзе кожнага Беларуса на думку, ці не ашуканства толькі гэта з гэтым ананімным Камітэтам?!

Асоб са складу камітэту ніхто ня знае; і вось, гэты нязнаны камітэт заклікае галасаваць за сваіх кандыдатаў, але не падаў сьпіску гэных кандыдатаў. Чаму гэта? А вось чаму: „Наша Праўда" не адважыцца выявіць праўду, бо-ж на сьпіску „Zjednoczonego Kom. Wyb. P. P. S. i N. S. стаяць кандыдатамі не беларускія работнікі, а польскія інтэлігенты ды яшчэ інжынеры як напрыклад, Заштовт і Дзідзюль. Ведаючы добра, што беларускі работнік ня будзе галасаваць за польскага інтэлігента „Наша Праўда" і баіцца падаць сьпіску кандыдатаў, за якіх прызывае галасаць беларускіх работнікаў. Вось у гэтым выяўляецца ўсё тое баламуцтва, якое ўвесь час вядзе газэта „Наша Праўда". Яна ўвесь час баламуціць сялян і работнікаў і намаўляе іх іському то з Ваявудзкім з б. „Вызваленьня" і Niez. P. Chł., то з Заштоўтам—з P. P. S., але ніколі ня кіруе сялян і работнікаў на сваю незалежніцкую дарогу.

Гэтае лёкайства „Наш. Праўды"—прыслужвацца польскім ды і іншым, але толькі не беларускім палітычным кірункам, сьведчыць выразна аб тым, што ёй ходзе толькі аб тое, каб у мутнай вадзе лавіць рыбу. Прыклад з выбарамі ў Віленскую Раду пацьвярджае ўсе папярэднія нашы вывады адносна фальшывасьці ролі, якую вядзе „Наша Праўда" і яе папярэдніцы. Паўлюкевічыўшчына і ўмястоўшчына цягнуць у бок польскай буржуазіі, а луцкевічыўшчына ў бок лёкайства на карысьць польскіх і іншых баламутных палітычных дзеячоў, якія прыкрываюцца пралетарскімі лёзунгамі. Аднак гэтыя лёзунгі не мяшаюць ім рабіць польскую нацыянальную работу, скіраваную проці адраджэньня Беларусі. Мала гэтага, луцкевічыўшчына і паўлюкевічыўшчына да гэтага прыкладаюць свае рукі.

Выбары ў Віленскую Раду яшчэ раз раскрылі баламутнасьць гэтай работы. Усе работнікі, працоўная інтэлігенцыя бачаць, што з усіх 12-ёх сьпіскаў кандыдатаў толькі **сьпісак № 1 мае беларускіх кандыдатаў** і затым усе будуць галасаваць за № 1.

Галасаваньне 19-га чэрвеня будзе доказам гэтага.

## Справа забойства Войкава.

### Як хавалі Войкава.

У Маскве на вагзале пад зыкі жалобнага маршу падышоў цягнік да пэррону з целам забітага ў Варшаве савецкага пасла Войкава. Труну вынясьлі з вагону і ўстанавілі на гарматны ляфэт і ціхім ходам працэсія направілася на Чырвоную Плошчу. Увесь час музыка іграла жалобны марш. За труною ішлі—жонка, савецкі ўрад і прадстаўнікі рожных арганізацыяў.

На Чырвонай Плошчы, перад вялікім натоўпам людзей, Старшыня Савецкага Ураду Рыкаў сказаў прамову, у якой адзначыў, што забойства Войкава справа ангельцаў, якія даюць сродкі расейскім белагвардзейцам на арганізаваньне нападаў на савецкіх прадстаўнікоў. Забойства Войкова Рыкаў лічыць безпасярэднім нападам на савецкую дзяржаву. Але на гэтыя напады,—кажа Рыкаў—мы адказалі цьвёрдымі мерамі вядомамі ўжо ўсяму насяленьню Савецкага Саюзу.

Пасьля Рыкава выступіў Бухарын ад імя Цэнтральнага Камітэту Камуністычнае Партыі, які закончыў сваю прамову заяваю, што „мы нават на адзін момант, нават на адну дзесяцімільённую частку моманту не адступім ад тых заданьняў, якія напісаны на сьцягах нашае партыі"!...

Пасьля Бухарына выступіла яшчэ многа прамоўцаў.

Па закончэньні прамоваў пад зыкі Інтэрнацыянала апусьцілі труну ў магілу.

Над магілаю апускаюцца сьцягі партыйных і дзяржаўных установаў. Раздаюцца гарматныя салюты. Далей сьледуюць дэманстрацыі рабочых і чырвонаармейцаў.

### Другая савецкая нота Польшчы.

Пасьля лагоднага адказу польскага ўраду на першую савецкую ноту ў справе забойства Войкова, польскі ўрад атрымаў другую ноту якою дамагаюцца хуткае фізычнае расправы з забойцаю і выдаленьня ўсіх расейскіх эміграцкіх арганізацыяў з Польшчы, якія варожа адносяцца да савецкае дзяржавы.

### Працэс Кавэрды.

Варшаўскі Надзвычайны (даразны) Суд у сераду 15 г. чэрвеня разглядаў справу забойцы Войкова Кавэрду.

З боку пракурора выклікалася 18 сьведак, а з боку забойцы б. Баранілі Кавэрду 4 адвакаты.

Усе сьведкі з боку Кавэрды далі добрую аб ім апінію, а з боку пракурора сьцьвярдзілі ход самае акцыі забойства.

Пракурор у сваей прамове ня даў ніякае канкрэтнае прапановы абвінавачаньня, склаўшы справу на сумленьне судзьдзяў, на законы польскае дзяржавы і на міласэрдзьдзе.

У рэзультаце Кавэрду асудзілі на вечную катаргу з правам зьвярнуцца да п. Прэзыдэнта прасіць аб вызначэньні 15 гадовага тэрміну адбыцьця кары.

## Беларусы заграніцай.

### Латвія.

У сувязі з пятымі ўгодкамі істнаваньня Беларускае Гімназіі ў Дзьвінску (Латвія), у памешканьні школы была арганізавана выстаўка экспанатаў вучнёўскіх працаў, якія прыцяглі многа публікі. Асаблівым пасьпехам карысталіся вырабы гімназіяльных майстэрняў: сталярнай, мэханічнай і ткацкай. Пад канчатак другога дня выстаўкі амаль-што ўсе экспанаты былі праданы і майстроўням зроблена цэлы рад новых прапановаў на выраб новае колькасьці рожных выстаўляных рэчаў.

На ўрачыстым акце сьвяткаваньня апрача бацькоў і сваякоў вучнёўскай моладзі, былі прысутнымі прадстаўнікі латыскага, расейскага і жыдоўскага грамадзянства. Пасьля дакладу дырэктара гімназіі С. Сахарава, з прывітаньнямі выступалі начальнік беларускага аддзелу пры міністэрстве асьветы В. Пігулеўскі, старшыня дзьвінскае меставае рады п. Волёнд, старшыня латвійскага культурнага таварыства п. Анжэ, інспэктар пачатковых школаў п. Строд, дырэктар расейскай гімназіі Кулееў, прадстаўнікі ўсіх беларускіх арганізацыяў і г. д. Былі атрыманы прывітальныя тэлеграмы ад латвійскага міністра асьветы п. Я. Райніса і ад беларускіх арганізацыяў з Вільні, Коўна, Прагі і Менску. Урачыстасьць закончылася спэктаклем-канцэртам.

На юбілей зьехалася болей як 100 прадстаўнікоў вучняў і вучыцялёў амаль ад усіх беларускіх школаў.

## Сяляне Беларусы!

Па ўсіх кутках Заходняе Беларусі пачаліся выбары ў валасныя і меставыя рады. Сяляне, Беларусы! Ваш сьвяты абавязак—прыняць дзейны ўдзел у выбарах і правесьці сваіх сялянскіх прадстаўнікоў у рады. Кожны, хто мае 21 год, няхай ідзе на раённае (абводовае у вёсцы) сабраньне і выбірае сяброў валаснога сабраньня. У сябры валаснога сабраньня трэба выбіраць толькі сялян, сьведамых і стойкіх Беларусоў, якія патрапяць арганізавана выступіць на валасным сабраньні і выбраць у раду добрых барацьбітоў за лепшую вашую долю. Пры выбарах высьцерагайцеся рожных баламутных элемэнтаў, што гандлююць беларускімі справамі, а ідучы нацыянальным беларускім фронтам, выбірайце толькі сваіх сялянскіх прадстаўнікоў.

Усе інфармацыі аб выбарах і выбарны закон былі зьмешчаны ў № 46 „Сял. Нівы". Калі ўлады ці іншыя групы, што ідуць проці сялянства будуць нарушаць выбарны закон, неадкладна падавайце жалабы выбарнаму камісару згодна з §§ 40—42 закону аб выбарах.

Цэнтральны Камітэт
Беларускага Сялянскага Саюзу
Вільня, Завальная 6—5.

**Беларусы, работнікі і працоўная інтэлігенцыя, галасуйце за сьпісак № 1**

# Місюгіна у ролі правакатара.

У адным з папэрэдніх нумароў „Сялянскае Нівы", мы падавалі вестку аб тым, што Янка Станкевіч, разлічаючы на цямнейшыя элемэнты маніцца заснаваць нейкую быццам сялянскую партыю, каб вясьці паўлюкевічаўскую работу.

І вось, гэтымі днямі здарыўся гэтакі фокус: зьявілася газэціна „Народ", аднаднёўка „Беларускага Сялянскага Саюзу", выданая нейкім ня веданым нам Келмуцем і кіраваная Янкай Станкевічам. Што можа быць болей нясумленнага, подлага і гумарыстычнага, як гэтая дурната беларускага „наўчонага філёлега", які сваей прыдатнай на жарты мовай заяўляе, што ён належыць да Беларускага Сялянскага Студэнскага Саюзу ў Празе Чэскай, ды што, стварыўшы часовы камітэт, гэтым самым, быццам манаршаю воляю, ён адхіляе ад кіраўніцтва Беларускім Сялянскім Саюзам яго запраўдных арганізатараў, а той цэнтральны камітэт, які быў выбраны на канфэрэнцыі 24 сакавіка 1926 года, проста касуе.

Але скора казкі гаворацца, ды ня скора збываюцца, гэтак сама і тут, мала таго, што некаму захочацца нешта скасаваць, трэба на гэта мець праўныя асновы або фізычную сілу. Самазванец „наўчоны спадар" Янка Станкевіч, ня будучы сябрам Беларускага Сялянскага Саюзу, робячы выступленьні ад імя Саюзу дапусьціўся правакацыйнага паступку, а дзеля гэтага самага папераджаем беларускае грамадзянства, ня зьмешываць Беларускага Сялянскага Саюзу з новым фікцыйным, самазванным „Часовым Камітэтам" такога-ж самага назову.

Пасьля зьліквідаваньня Грамады, правакацыйныя дэфэнзыўныя элементы думалі, што мэта іх асягнута, думалі што беларускі рух аканчальна задушаны. Ажно прайшоў нейкі час і вось што мы бачым. Мы бачым—што беларускі нацыянальны рух ня толькі ня сьпыніўся, а наадварот пасьля рэпрэсыйнага пераполу набраў большай актыўнасьці і ахапіў галоўным чынам сялянства, як масу Беларускага Народу.

Разумеецца, што правакатарам гэта вельмі не спадабалася. І вось, бачачы ліквідацыю сваіх надзеяў, яны пускаюцца на новую подлую правакацыю. Яны думаюць, што гэтакім парадкам ім удасца зьбіць Народ з запраўднага незалежніцкага сялянскага фронту і, адцягнуўшы нейкую частку сялянства, ізноў вылавіць здальнейшыя адзінкі з пасярод беларускай сялянскай масы, каб аддаць у рукі паліцыі, як было зроблена гэта з „Грамадою".

Мы верым у палітычнасьць нашага сялянства і гэта дазваляе нам думаць, што ніхто з масы нашага сялянства не паддасца правакацыйнай і згубнай працы Янкі Станкевіча.

Гэта правакацыйная праца выявіла і другую старану нашае арганізацыі, а іменна, яна паказала, што наша арганізацыя стаіць на правільным шляху. Сьведчыць аб гэтым тое, што „Саюзнікі", якія нядаўна чарнілі Беларускі Сялянскі Саюз, што быццам ён дзеліць сялян ад работнікаў—цяпер сваім правакацыйным выступленьнем цьвердзяць, што сялянства ёсьць клясай і нават пішуць аб вялікай патрэбе клясавай арганізацыі беларускага сялянства.

Пераходзячы да асобы Янкі Станкевіча можна сказаць, што гэта здэмаралізованы тып, якога ніякая беларуская арганізацыя не захацела прыняць у свае рады, але які акурат прыдаўся для правакатарскай працы. За час сваей дзейнасьці Янка Станкевіч адзначыўся толькі тым, што паслужыў тыпам для гуматырыстычных жартаў. І вось гэты гумарыстычны тып мае адвагу заснуваць нейкі часовы камітэт і кідаць гразёю ў нацыянальныя беларускія арганізацыі і іх кіраўнікоў. Але чаго як ня гэтага можна чакаць ад гэтакіх „людзёў", як „наўчоны" збанкрутаваны спадар Янка Станкевіч.

Кожны чэсны чалавек, каб запраўды меў ідэю працы для народу пад сьцягам палітычнае партыі, то для гэтага знайшоў-бы сумленную дарогу для рэалізацыі сваей ідэі, але браць назоў ужо істнуючае арганізацыі і выступаць ад яе імя, гэта можа зрабіць ніхто іншы, як толькі асоба, што ня мае ніякага выхаваньня, або асоба, якую прынята называць місюгінай, а ўрэшце, гэтым заўсёды займаюцца правакатары.

# Што трэба ведаць выбаршчыку і сябру валаснога сабраньня?

Кожны выбаршчык павінен ведаць, на які дзень вызначаны ў вёсцы выбары сяброў валаснога сабраньня, каб ня прапусьціць гэтага тэрміну і пайсьці на выбары. Яшчэ перад выбарамі ў вёсцы ўсе павінны згаварыцца, каго выбраць у сябры валаснога сабраньня. Прышоўшы на выбары, трэба каму-небудзь падаць раённаму камітэту сваіх кандыдатаў і як толькі будзе галасаваньне, усім трэба галасаваць за сялянскіх беларускіх кандыдатаў. Трэба вельмі высьцерагацца, каб не выбіраць здраднікаў і слабавольных сялян, што могуць пайсьці з буржуазіяй або дэфэнзывай.

Як толькі адбудуцца на вёсках у воласьці раённыя выбары, выбраныя сяляне ў сябры валаснога сабраньня з аднэй вёскі (або грамады) павінны сабрацца і з паміж сябе выбраць аднаго дэлегата, якому даручыць паразумецца з дэлегатаі іншых вёсак,—выбранымі ў сябры валаснога сабраньня. Незабаўна, дэлегаты на адным з кожнае вёскі (або абводу) павінны сабрацца і ўлажыць сьпісак кандыдатаў у радныя. Кандыдатаў трэба ставіць па парадку іх значэньня у грамадзкай працы і беларускай сьведамасьці. Першымі павінны быць найбольш сьведамыя Беларусы-сяляне. Як толькі дойдзе да згоды ў справе намечаных кандыдатаў, трэба зараз напісаць сьпісак кандыдатаў. Гэтакі сьпісак павінен быць састаўлены па такой форме:

СЬПІСАК

кандыдатаў у сябры Валасной Рады ў Грыцэвічах, Несьвіскага павету, групы сялянскіх сяброў валаснога сабраньня.

| № чарг. | Прозьвішча і імя | Век | Заняткі | Адрэс (дзе жыве) |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Саюзнік Антон . | 36 г. | Земляроб | В-ка Бурачкі, дом № 5, Грыцэвіцкай воласьці. |
| 2 | | | | |

Гэткія сьпіскі можна пісаць пабеларуску, у Віленскім, Наваградзкім, Палескім і Беластоцкім ваяводз. за выняткам: **Беластоцкага, Сакольскага, Бельскага і Аўгустоўскага пав.**, дзе трэба пісаць папольску.

Сьпісак папольску можна пісаць так:

LISTA

kandydatów na członków Rady Gminnej w Białowieży, pow. Bielskiego, grupy włościańskich członków zebrania gminnego.

| Nr. kolej. | Nazwisko i imię | Wiek | Zawód | Adres (gdzie mieszka) |
|---|---|---|---|---|
| 1 | Nazaruk Jan . . | 35 l. | Rolnik | Wieś Orzeszkowo dom Nr. 5, gminy Białowieskiej. |
| 2 | | | | |

Паводле вышэй зьмешчанай формы трэба напісаць якіх 18 кандыдатаў (паўтара разы столькі, колькі мае быць сяброў рады.

Такі сьпісак кандыдатаў трэба каб падпісалі **толькі сябры валаснога сабраньня**; подпісаў павінна быць ня меней пяці, лепей каб было больш подпісаў. З такім загадзьдзя састаўленым і падпісаным сьпіскам трэба ісьці на валасное сабраньне.

Калі-б на валасным сабраньні акалалася, што сялянскія сябры саставілі некалькі сьпіскаў, дык трэба пастарацца, каб іх памагчымасьці злучыць у адзін агульны сялянскі беларускі сьпісак і там-жа, на валасным сабраньні, напісаць такі агульны сьпісак і падпісаць яго.

Аднак лучыцца можна толькі з сапраўды беларускімі сялянскімі сьпіскамі, а не чужацкімі. Каб такое, на сьпех лучэньне не аказалася благім, трэба пастарацца, да часу скліканьня валаснога сабраньня згаварыцца, саставіць адзін сялянскі сьпісак і з ім прысьці на валаснае сабраньне і пры галасаваньні аддаць свае галасы за свой сьпісак.

Дык помніце, сяляне-Беларусы, выступайце арганізавана на выбарах і выбірайце ў самаўрады толькі сваіх сялянскіх барацьбітоў!

**Беларускі Сялянскі Саюз.**

# З жыцьця Польшчы.

### Гандлёвы балянс за травень.

„Dziennik Wileński" піша, што польскі заграгічны гандлёвы балянс за травень месяц выносіць 34 міл. дэфіцыту, г. зн. што за травень месяц прывязьлі ў Польшчу на 34 міл. злотых болей як вывезьлі.

### Варшава радуецца.

Дазволіўшы вывезьці свой хлеб заграніцу з восені па таннай цане, цяпер прыходзіцца купляць хлеб за граніцаю і, ведама, трэба плаціць даражэй. Але-ж і гэтаму Варшава рада, бо як дазналіся газэты, што з Гданску транспартуецца 700 вагонаў збожжа ў Варшаву, дык з захопленьнем напісалі: будзем есьці добры хлеб!...

### Вынікі палітыкі мін. Незабытоўскага.

„Głos Prawdy" пад гэтакім загалоўкам зьмяшчае вось якую вестку: „Прывоз збожжа павялічваецца з месяца на месяц. У красавіку мы прывязьлі 45 тысяч тоннаў (а тонна 61 пуд) пшаніцы, у траўні 64 тыс. тоннаў. Жыта прывязьлі мы 5 тыс. тоннаў у красавіку і 32 тыс. у траўні. Вось якія вынікі палітыкі мін. Незабытоўскага!"

# Месячнік „Sprawy Narodowościowe".

Яшчэ ў 1921 годзе, у Варшаве, частка т. наз. дэмакратычна і быццам прыхільна настроенай да нацыянальных меншасьцяў у Польшчы група палякоў, залажыла таварыства пад назовам „Інстытут Дасьледаў Нацыянальных Спраў". Паводле статуту, гэтае польскае таварыства мае на мэце бесстаронна сачыць за справамі нацыянальных меншасьцяў і асьведамляць польскае грамадзянства аб жыцьці і разросьце нацыянальнага ўсьведамленьня меншасьцяў. На чале гэтага таварыства стаў вядомы пасол Тугут, быўшы старшыня партыі „Wyzwolenie" і быўшы міністар і віцэстаршыня аднаго з коаліцыйных польскіх урадаў. Ня гледзячы на некалькігодняе сваё істнаваньне гэтая польская ўстанова зусім ня выказалася ніякой працай. Нават тады, калі старшыня Інстытуту пас. Тугут быў сябром ураду, што давала таварыству большую магчымасьць працы дзякуючы магчымым крэдытам, ня чуваць было аб працы гэтага таварыства.

Але вось наступае г. зв. маёвы пераварот; да ўлады даходзе быццам польская дэмакрацыя і прытым дэмократыя, што блізка стаяла закладчыкаў Інстытуту Дасьледаў Спраў Нацыянальных Меншасьцяў.

Незабаўна пасьля гэтага пас. Тугут (ужо як сябра партыі Працы, на чале якой стаяў Бартэль-старшыня пасьлямаёвага пераавароту) з гр. Галувко (сябрам П П. С., а цяпер высокачынным польскім саноўнікам у міністэрстве замежных спраў), склікалі агульны сход сяброў Інстытуту і паасобных дзеячаў і на гэту сход-гарбатку запрасілі прадстаўнікоў Беларускага і Украінскага Пасольскіх Клюбаў.

На гэтым сходзе з прамовамі выступалі рад аратараў. Усе прамовы былі больш агульнага характару, з боку польскіх прамоўцаў чуўся нейкі надзейны настрой на нейкую новую эру ў справе палажэньня нацыянальных меншасьцяў і заклік да супрацоўніцтва, якое будзе карысным як для Польскай Дзяржавы, так і для саміх меншасьцяў.

Але прамовы як Беларусаў, так і Украінцаў былі зусім безнадзейнымі ў сэнсе радыкальнай зьмены палітыкі польскага ўраду.

Гарбатка кончылася. Прайшоў месяц, два, паўгоду і больш, а аб новых паседжанньях Інстытуту, аб даследах спраў нацыянальных меншасьцяў нічога ня чутно. Калі пры папярэдніх хіена-пястоўскіх ўрадах Інстытут ня мог шырэй павясьці працу дзеля няпрыхільнасьці гэтага ўраду да спраў нацыянальнасьцяў, дык пры пасьлямаёвым урадзе Інстытут, відаць, паклаў поўную надзею на гэты ўрад і на яго „прыхільнасьць" да справы нацыянальных меншасьцяў і затым таксама не ўважаў за патрэбнае інтэнсыўна павесьці працу.

Але ў гэтым часе, калі польскі Інстытут ня выяўляў сваей працы, а затое польскі ўрад распачаў працу ў тым-жа шовіністычным духу Ст. Грабскага, пяць нацыянальных меншасьцяў у Польшчы (Беларусы, Украінцы, Ліцьвіны, Немцы і Жыды) залажылі супольны рэдакцыйны камітэт і ў лютым с. г. выпусьцілі на чатырох мовах месячнік „Natio". Пасьля выхаду гэтага месячніка, які мае на мэце асьвятляць на аснове лічбовых дадзеных і конкрэтных фактаў, сапраўднае цяжкое палажэньне нацыянальных меншасьцяў у Польшчы,—выходзе месячнік Інстытуту Дасьледаў Спраў Нацыянальных Меншасьцяў пад назовам „Sprawy Narodowościowe". За пару месяцаў выходзе нумар другі месячніка „Spr. Narodow.". У гэтым часе Інстытут пачынае больш рэклямавацца аб працы і аб арганізацыі рожных сэкцыяў.

Як першы так і другі нумар месячніка абыймаюць даволі шмат матэр'ялу і затым у рамках аднаго артыкулу немагчыма было-б яго разабраць. Аднак кожнаму чытачу з нацыянальных меншасьцяў кідаецца ў вочы сам падбор матэр'ялу ў месячніку. З Беларускага нацыянальнага пытаньня ў першым нумары знаходзім кароткі агляд аб беларускім школьніцтве ды нявялічкі агляд беларускай прэсы. У другім нумары знаходзім зацемку аб беларускім палітычным руху ды агляд беларускай прэсы. У зацемцы аб беларускім палітычным руху праглядвае яўная тэндэнцыя проціпастаўленьня сапраўды беларускіх імкненьняў

БЕЛАРУСЫ! ГАЛАСУЙЦЕ ЗА СЬПІСАК 1

БЕЛАРУСЫ! ГАЛАСУЙЦЕ ЗА СЬПІСАК 1

### Сёлетні гандлёвы балянс Помышчы.

У „Przeglądzie Gospodarczym" п. Ржэпэцкі паддае падрабязнаму разгляду гандлёвы балянс. Аўтар сцьвярджае, што ў польскім вывозе сёлета здарыліся вялікія зьмены ў параўнаньні з леташнім годам. Вываз вугальля аказаўся шмат ніжэйшы ад таго роўня на які спадзяваліся.

Вываз дрэва ўвесь час павялічваецца і толькі гэта ратуе польскі гандлёвы балянс.

Наагул балянс вельмі не пажаданы.

Галоўнай прычынай благога гандлёвага балянсу ёсьць,—леташняя няўрода... Гэта ясна, але разам з тым і палітыка мін. Незабытоўскага, дабавім мы.

### Новыя выбары ў Прушкове.

Папярэднія выбары ў меставую раду далі гэтакія камунізуючыя вынікі, што самыя выбары былі ўняважняны. І вось цяпер маюць адбыцца новыя выбары. Улады пробуюць, ці не зьмянілі пераконаньняў грамадзяне Прушкова... І праўда, што зьмена павінна быць, бо заместа 11 на папярэдніх выбарах, на новае галасаваньне падана толькі 7 сьпіскаў.

## НАВІНЫ.

— **Падсуднасьць „Сял. Нівы".** Гэтымі днямі рэдактар Мацкевіч атрымаў акт абвінавачаньня за артыкул „Новыя Ўдары", які быў зьмешчаны ў № 25 „Сял. Нівы".

Хоць артыкул тагды ня быў сканфіскаваны, але-ж ўлада цягне рэдактара да адказнасьці і ставіць віною і тое, што артыкул быў распаўсюджаны.

Рэдактара будзе судзіць акружны суд па 129 артыкулу, ч. I, п. 6. кар. кад.

— **Суд над рэдактарам Д-рам Туронкам.** 13-га г. м. Акружны суд у Вільні разглядаў справу беларускага рэдактара „Крыніцы" Д-ра Туронка. Бараніў рэдактара адвакат Нэйман.

Пасьля разгляду справы суд вынес прыгавор, на аснове якога засуджана Д-ра Туронка на 3 месяцы вастрогу. Засуджаны падаў апэляцыю.

— **Судовы працэс у Слоніме.** Слонімскі судовы працэс, аб якім мы пісалі ў № 44 „Сял. Нівы", гэтымі днямі мае закончыцца.

Абвінавачаных Беларусоў бароняць адвакаты: Альшэўскі, Домброўскі і Вайс.

Пасол Ярэміч выступаў як сьведка з боку вінавачаных.

— **З жыцьця Беластоку.** У Беластоку паліцыя арыштавала быццам сэкрэтара акружнага камуністычнага камітэту Заходняй Беларусі. Прозьвішча арыштаванага паліцыя не называе, бо яшчэ не закончана шуканьне яго супрацоўнікаў.

На фабрыцы Э. Гасбаха ў Даўзідах паўстала забастоўка. Работнікі дамагаюцца падвышкі платы на 17 проц. Бастуе 200 работнікаў.

Бастуюць таксама 250 работнікаў будаўлянай прамысловасьці (напр. муляры, сталяры і г, д.) і таксама як і фабрычныя работнікі дамагаюцца павышэньня заработнае платы.

### Ах, сумна вясною...

Ах, сумна вясною ў вастрозе сядзець,
Ах, цяжка праз краты на неба глядзець,
Ах, сумна, ах, цяжка, да болю душы
Ўсё слухаць і слухаць зьвіняць як ключы.
Блакітнае неба чаруе, маніць,
Вясёлая песьня пад неба ляціць
І ветрык усюды разносіць вясну,
Вастрог-жа мінае, бо я ў ім сяджу.
Ах, сумна ў вастрозе сядзеці вясной
Бо сэрца грызецца маркотнай тугой
І вяне, бы кветка, збалела душа —
Нічога ня чуе, не бачыць яна.

### Жыцьцё.

Прыходзіць дзіцятка на сьвет
І слабыя ручкі сьціскае
І з плачам іх туліць к сабе —
Здаецца, ўвесь сьвет загартае.
На сьвеце жыве чалавек:
Імкненьне, змаганьне і праца;
Спакою ня знае ўвесь век,
Ня знае за што на'т хапацца.
Са сьвету зыходзіць старым
І рукі свае рашчапляе,
Спакойна ляжыць ён нямым —
І сьвет і ўсё пакідае.

Валодзя Барада.

*СЯЛЯНЕ, БЕЛАРУСЫ!*

*Усе ідзіце на раённыя сабраньні і выбірайце сваіх стойкіх сялян-Беларусаў у сябры валаснога сабраньня!*

## Камунікат.

12 г. чэрвеня ў памешканьні Нямецкага Соймавага Клюбу адбылася канфэрэнцыя сацыялістычных і радыкальных партыяў нацыянальных меншасьцей у Польшчы ў гэтакім складзе: Беларускі Сялянскі Саюз, Нямецкая Сацыялістычная Партыя Працы, Агульна Жыдоўскі Работніцкі Саюз „Бунд", Украінская Сацыялістычна-Радыкальная Партыя, Украінская Сацыялістычнае Аб'яднаньне „Сельсаюз", Жыдоўская Сацыялістычная Партыя Поалей-Ціон (Аб'яд. Ц. С.) і Жыдоўска Сац.-Дэм. Работніцкая Партыя.

Канфэрэнцыя мела на мэце аб'яднаньне палітычнай і тактычнай плятформы вышэй паданых партыяў.

Дзеля ультыматыўнага спраціву, з боку „Бунду" супрацоўніцтва з Поалей-Ціон „Лявіца", які кіраваўся мэтодамі змаганьня тэй апошняй, канфэрэнцыя выслухаўшы аналягічную заяву Поалей-Ціон „Лявіцы", пастанавіла сучасную канфэрэцыю лічаць распушчанаю.

Партыі: Беларускі Сялянскі Саюз, Нямецкая Сацыялістычная Партыя Працы, У. С. Р. П., У. С. А. „Сельсаюз" і Поалей-Ціон (Правіца) высказаліся, што, хоць сучасная канфэрэнцыя не дала вынікаў, не выключаецца, аднакжа ідэя стварэньня адналітага фронту сацыялістычных партыяў нацыянальных меньшасьцей ў Польшчы; у мэтах гэтага распачнуць на-нова адпаведныя працы для зьдзейсьненьня сваіх намераў.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Кітайскія падзеі.

Армія Чанг-Кай-Шэка і ханькоўскага чырвонага ўраду разьбілі армію Чанг-Тсо-Ліна і ўвесь час наступаюць на Пэкін.

Чанг-Тсо-Лін пакідае Пэкін і пераходзіць у Мукдэн.

Японія стараецца дапамагчы Чанг-Тсо-Ліну, дык стаўшы пасрэдніцаю запрапанавала ўсім кітайскім арміям згоду, але-ж Чанг-Кай-Шэк гэтую прапанову адкінуў, бо думае што, пакуль будуць перагаворы, дык Чанг-Тсо-Лін можа папправіць сваё палажэньне, а тагды будзе цяжка з ім ваяваць.

### Францыя.

Лявон Додэ, францускі палітычны дзеяч быў асуджаны на 5 месяцаў вастрогу за безпадстаўныя нападкі, ў рэдагаванай ім газэце, на некаторых асобаў у справе забойства яго сына.

Пасьля таго, калі настаў тэрмін адбыцьця гэтае кары, дык на прапанову ўлады Додэ не згадзіўся зьявіцца па добрай волі ў вастрог. Прышлося браць сілаю. У рэзультаце чаго было паранена 30 чалавек паліцыі і 26 чалавек прыхільнікаў Додэ.

Пасьля гэтае крывавае бойкі Додэ здаўся і пашоў у вастрог.

### Радавы Саюз.

Газэты пішуць, што нядаўна растраляна ў савецкай дзяржаве 100 чалавек, якія былі арыштаваны за непрыхільнасьць да савецкае ўлады.

Забіты там яшчэ выдатны камуніст Тураў.

І гэткім чынам, бачым прыкрую з'яву: тэрор на тэрор. Праціўнікі камунізму забіваюць камуністых, а камуністыя плацяць сваім ворагам тым самым. У сувязі з апошнімі выпадкамі правы чэразвычаек (палітычнае паліцыі) значна павялічаны. Армія ўвесь час гатуецца па ваеннаму, каб у патрэбны момант даць адпор таму, хто адважыцца напасьці на савецкую дзяржаву.

### Ліга Нацыяў

Гэтымі днямі адбываюцца паседжаньні Рады Лігі Нацыяў. Справы, якія ставяць афіцыяльна на парадку дня, мала цікавяць прысутных дэлегатаў-міністраў. Найбольш абгаварваюцца справы неафіцыяльна і пераважна па пытаньням адносінаў да Саветаў.

Нямеччына трымаецца да Саветаў прыхільна, рэшта дзяржаваў варожа.

*Сяляне, сябры валаснога сабраньня! Загадзьдзя (да валаснога сабраньня) састаўляйце сьпіскі кандыдатаў у валасныя рады і дружна галасуйце толькі за беларускіх сялянскіх прадстаўнікоў!*

імкненьнямі рожных „жонак", як: Паўлюкевічаўшчына, Умястоўшчына ды Валэйшаўства, што ўтрымоўваюцца коштам палітычных дыспазыцыйных крэдытаў польскага ўраду.

Аб палітычных дамаганьнях Беларускага Пасольскага Клюбу, як прадстаўніка Беларускага Народу ў польскім Сойме ў месячніку нічога не спатыкаем. Які-ж гэта Інстытут Дасьледаў Спраў Нацыянальных Меншасьцяў будзе праводзіць гэтыя дасьледы калі ня рупіцца ў сваей часопісі надрукаваць пастулятаў нацыянальных меншасьцяў?! Ды чаму гэта месячнік не падае фактаў усіх надужыцьцяў уладаў, арыштаў, палітычных і судовых працэсаў—як спраў нацыянальных меншасьцяў?!

Чаму месячнік не падае ўсіх фактаў перасьледаваньня беларускага школьніцтва?! Чаму ня піша аб самаўрадовых парадках на няпольскіх землях?! Чаму ня піша аб ліквідацыі беларускіх коопэратываў і закладаньні на іх месцы польскіх?! Можна было-б думаць, што рэдакцыя не пасьпела зьмясьціць матэрыялаў па закранутым пытаньні дзеля нераспрацоўкі матэрыялу і недахвату месца. Але гэтыя думкі ня маюць пад сабой адпаведнай асновы, бо ўжо ў гругім нумары месячніка „Sprawy Nar." бачым цэлую кучу фактаў „szykan" літоўскага ўраду скіраваных проці польскае меншасьці ў Літве. Чытаючы іх перад вачыма адразу паўстае яшчэ больш жудасны абраз гэтых шыкан збоку польскае ўлады адносна Беларусаў: арэшты вучыцялёў (с. п. М. Белаусава, Надз. Капішончык і іншыя) штрафы вучыцялёў па 50 зл. за навучаньне ў беларускай школе (Слонімшчына), ліквідацыя ўсіх беларускіх пачатковых школ урадовых), сыстэма плебісцыту і дапросаў школьных інспэктараў, арыштаваньні за складаньне дэкляарацыў, недаваньне дазволу на прыватныя беларускія школы, незацьверджаньне вучыцялёў, ліквідацыя 2 беларускіх сэмінарыяў і не даваньне дазволу на залажэньне беларускай сэмінарыі і г. д. і г. д.

Для параўнаньня палажэньня польскай меншасьці ў Літве з палажэньнем Беларусаў пад Польшчай прыточым апошні факт з „szykan" літвінамі палякаў узяты з месячніка „Sprawy Narodow.":

„Міністэрства Асьветы (у Літве—рэд.) дагэтуль ня выплаціла належных сум польскаму школьніцтву". Можам толькі запытацца рэдакцыю „Spr. Narodow.", а сколькі-ж гэта польскае міністэрства асыгнавала і сколькі выплаціла належных сум беларускаму вучыцельству?!

Але аб гэтым Інстытут Дасьледаў маўчыць, быццам гэтага яшчэ не дасьледзіў!

Заканчываючы кароткія ўвагі аб месячніку „Spr. Narodow." ня можам не зьвярнуць увагі рэцэнзіі аб „Natio". Успамінаючы аб артыкуле Др. Лысяка: „Школьніцтвы ня польскіх нацыянальнасьцяў", і, непадаючы ніякіх даных для свайго апраўданьня „Spr. Narodow." пішуць: „Трэба адзначыць, што ўспомнены артыкул нацэхаваны ёсьць выразнай тэндэнцыяй абвінавачаньня польскіх рашаючых дзейнікаў перад вонкавым форум аб прасьледаваньні нацыянальных меншасьцяў у галіне школьніцтва".

Такая зацемка бяз паданьня фактаў аб быццам непрасьледаваньні польскім урадам школьніцтва нацыянальных меншасьцяў, якраз выказвае тэндэнцыйнасьць часопісі „Sprawy Narodow.". Часопісь, якая хоча, каб яе прызналі за бесстаронны дасьлед спраў нацыянальных меншасьцяў, ня можа рабіць такіх галаслоўных вывадаў і гэтымі галаслоўнымі вывадамі зьбіваць фактычны матэрыял зьмешчаны ў „Natio".

Усё вышэй зьмешчанае даець даволі ясную ацэнку месячніка „Spr. Narodowościowe". Можна толькі сьцьвердзіць, што Інстытут Дасьледаў Спраў Нацыянальных Меншасьцяў разьмінуўся з мэтамі свайго статуту і зрабіўся звычайнай польскай установай з палітычным фундамантам, на якім мае будавацца Польшч бяз нацыянальных меншасьцяў. Каб на вокладцы месячніка „Sprawy Narodowościowe" ня было надрукавана: „Wydawnictwo Instytutu Badań Spraw Narodowościowych", дык кожны чытач зусім абаснавана сказаў-бы, што гэты месячнік выдаюць польскія міністэрствы: замежных, асьветных і ўнутраных спраў.

А. Культурнік.

# Да нас пішуць.

## Наша цемната.

Перхавічы, Баранав. пав.

Уся наша бяда ў тым, што мы цёмныя. Каб ня гэта цемната, то мы ўжо даўно-б былі адроджаным народам. Вось, на нашай цемнаце, на нашай неасьведамленнасці спэкулююць рожныя чужынцы, якія вядуць працу проці адраджэньня Беларускага Народу. У нашым павеце ужо даўно арудуе нейкі Цялёўскі, ці Цайлобскі (добра ня ведаю прозьвішча), якога прывёз у наш павет і пасадзіў за працу пасол з польскай партыі „Piast" Вітас. Гэты панок Цялёўскі папрабаваў вясьці працу пад польскім сьцягам, але хутка пабачыў, што ягоная праца ня мае пасьпеху сярод беларускага сялянства. Аднак доўга ня думаючы ён узяў ды перафарбаваўся на беларускі колер і, прыкідваючыся Беларусам, пачаў рабіць сабе папулярнасьць. Ведаем добра, што ўсе шчырыя сапраўдныя беларускія дзеячы ня цешацца сярод улады сымпатыяй, але пан Цялёўскі ды яшчэ такія, як Паўлюкевіч і Умястоўскі, карыстаюцца спэцыяльнай апекай. Дык вось, п. Цялёўскі, той, што прыкідываецца Беларусам, мае адумысловую пашану ў старостве; звычайнаму, простаму селяніну, папраўдзе сказаць, дык трудна і распазнаць, ці ён на службе ў старостве, ці так сабе толькі часта там круціцца.

Асабліва ў апошнія часы, як залажылася палянафільская газэта „Беларускі Дзень" гэты Цялёўскі праяўляе нябывалую рухлівасьць і пачынае падмазвацца да беларускіх арганізацыяў. Больш сьвядомыя кіраўнікі пазналі ваўка ў авечынай скуры і затым не прыймаюць Цялёўскага да беларускай працы. Але знайшоўся адзін такі цёмны, што ваўка прыняў за авечку і пусьціў у сваё стада. Але воўк пачаў ужо паказваць свае клыкі. Нядайна я прачытаў у „Бел. Дні" пісьмо Яна Дэшкоўскага і пракanаўся што Цялёўскі ўзяў у свае рукі Дэшкоўскага і кажа яму рабіць тое, што яго прыкінуты дабрадзецель прыкажа. Ня можам дапусьціць, каб Дэшкоўскі разумеў тое, што ён робіць, бо інакш не пашоў-бы на благую работу. Тут толькі адна наша цемната, адна нясьведамасьць. Але-ж пара ўжо асьвячацца, пара скончыць какетства з гэтым няпрошаным апякуном, бо грамадзкая апінія скора пачне не запісваць гэта на рахунак цемнаты, але на рахунак нягоднай працы.

Сьведамы.

## На школьным фронце.

(Слонімскі павет).

У леташнім годзе жыхары нашае вёскі Залацеева, Дзярчынскае воласьці, Слонімскага павету злажылі павятоваму школьнаму інспэктару дэклярацы і на 45 дзяцей школьнага веку, каб адкрыць беларускую школу.

Сёлета 8 красавіка прыехаў у вёску пан, які назваў сябе заступнікам школьнага інспэктара і, паклікаўшы да сябе дэклярантаў тых, дзяцей якіх дзеля розных прычынаў часам прапусьцяць які дзень і не пайдуць у школу, ды пачаў спраўджаць дэклярацыі. Але перад тым, як зрабіць дапрос, напужае пратаколам, а тагды ўжо пытае, у якім годзе радзілася дзіця. Ад гэтакага паліцэйскага падыходу да справы (нашы сяляне ведаюць, што знача пратакол), селянін або павялічваў або паменьшаў гады свайму дзіцяці, а заступніку інспэктара гэтага толькі і трэба.

Аб усім гэтым ён пісаў пратаколы і даваў падпісваць дэкляранту. Гэтакім парадкам дзіця не падходзіла пад школьны век, а дэклярацыя касавалася. Так, што цяпер ужо колькасьць дэклярацыяў будзе няпоўнаю, каб адчыніць беларускую школу.

Ужо пасьля гэтага сяляне і дагадаліся, што заступнік інспэктара іх ашукаў...

Просьба: што рабіць, каб направіць памылкі?...

Но.

**Ад Рэдакцыі.** Трэба падаць новыя дэклярацыі.



# НАШАЯ ПОШТА.

**Спыняем падпіску газэты ад 1.VII.** — Чарняўскаму і Грыгораву.

**Мікал. Беднаму, Осе:** Карэспандэнцыі атрымалі, памагчымасьці зьмесьцім.

**Полымя:** Нехапаючыя нумары паслалі, № 7, 8 і 27 — канфіскаваны,

**Голку:** Просім прыслаць Ваш дакладны адрэс.

**Райскаму Язэпу:** Газэту пасылаем на Беласток.

**Гуньку К.:** Паслалі Вам № 46 „Сялянскай Нівы", у якім зьмешчаны выбарчы закон.

**Я. Закінутаму:** Прышліце дадаткова, у якім месяцы было пабіта дзіця. Корэспондэнцыі памагчымасьці зьмесьцім, вершы пераглядзім, калі падойдуць зьмесьцім.

**М. Хруцкаму:** 2 зл. перадалі ў „Bielaruskuju Krynicu".

**Т. Анісковічу:** Пробны нумар паслалі.

**Ю. Ждановічу, Ф. Кукіену і Я. Стаселовічу:** Газэту пасылаем.

# Пісьмо Дырэктару Гімназіі.

Абітур'енты Беларускае Гімназіі ў Вільні паслалі гэтакае пісьмо арыштаванаму дырэктару гімназіі гр. Астроўскаму ў Вронкаўскі вастрог.

„Глыбока паважаны гр. Астроўскі!

Ужо хутка мінець паўгоду, як нас разлучылі, аднак памятка аб Вас засталася і застанецца ў нас на ўвесь час нашага жыцьця. Мы не забудзем таго аграмаднага значэньня Вашае працы, якую Вы ўлажылі ў нас.

Цяпер, калі мы стаім на парозе да новага жыцьця, калі можа назаўсёды разьвітаемся з школьнаю лаўкаю, мы абітур'енты, выражаем шчырую падзяку за ўсе Вашыя высілкі, палажаныя для нас вучняў — дзяцей працоўнага сярмяжнага народу.

Хаця Вам не далі прадаўжаць гэнае працы, хоць нас ізалявалі ад Вас, мы, моладзь, ужо добра зразумелі значэньне яе, і ня зойдзем з таго шляху, на які Вы нас паставілі.

Мы будзем прадаўжаць гэнную працу!

Мы дружна возьмем у свае рукі тую ліхтарню асьветы, якую Вы запалілі; і панясем яе ўва ўсе цёмныя куты загнанага народу.

Праўда, на нашым шляху шмат равоў і розных перашкодаў, аднак мы ня спужаемся іх і цьвёрда верым, што настане хвіліна, калі мы ўбачым вынікі нашае працы, калі народ ня будзе далей цягнуць ярма, наложанага на яго вякамі, калі парвець путы, трымаўшыя яго ў цемры і ня будуць яго дурманіць „цёмных дарог махляры".

Сяньня ў нас разьвітальны вечар. Мы сабраліся усе, каб адсьвяткаваць гэты традыцыйны дзень, аднак нейкі сумны настрой сярод вучняў. Дый як-жа ім весяліцца? Дзьверы вышэйшае асьветы зачынены, а матэр'яльнае становішча не дазваляець ім ехаць заграніцу.

А вучыцца трэба!

Ці-ж прыходзіцца нам стаяць на раздарожжы і чакаць лепшае будучыні і на лепшыя абставіны?

Не!

Мы чакаць ня будзем, мы яе самі здабудзем сваімі высілкамі, і толькі сьмерць нас можа ўстрымаць ад працы на карысьць загнанага народу.

Няхай-жа будзець вядомым, што мы не забылі Вас і Вашае працы, што дух, які Вы ў нас улажылі, жыве і будзе жыць сярод нас!

Выражаючы глыбокі спагад і шчырую падзяку, жадаем, каб у хуткім часе спаткаліся з Вамі ўжо ў іншых абставінах, каб не аддзялялі нас вастрожныя краты ад чалавека, які так добра памятаў аб нас.

Подпісы:

Аўгеньня Казлоўская, Мікола Яцкевіч, Пётра Шчасны, Зьдзіслаў Вайцеховіч, Янка Хвораст, Уладзімір Шышко, Мар'я Скурка, Ксенія Мамчыц, Зінаіда Рышкевіч, Зоя Грыц, Роза Озік, Хведар Ільляшэвіч, Леванід Цытовіч, Казімір Чартовіч, Вайцех Шутовіч, Ірэна Будзька, Каліса Зімніцкая, Софія Асаевіч, Айша Муха і Іван Грыгорук.



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.